Самапомач Гаспадарства

№ 14 (67).
Год VI.
Вільня.
10.IX.1937 г.

РЭДАКЦЫЯ:
Вільня, Полацкая вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.
АДМІНІСТРАЦЫЯ
Вільня, Завальная № 1.

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

# У блудным коле.

На адным з апошніх палітычных зьездаў у Вільні (О З.Н. — 15.VIII) прадстаўнікі польскае інтэлігенцыі жаліліся, што мясцовае насельніцтва ня горніцца да... асьветы. Гаварыў гэта чалавек, які жыве і дзеіць, як відаць з справаздачы гэнага зьезду, на абшары павету Пастаўскага (Віленшчына). Ня ведаем, што паслужыла прычынай да гэткага абвінавачаньня нашага насельніцтва. З свае практыкі толькі ведаем, што куды толькі ў гэтым і суседніх паветах ня трапілі беларускія часапісы нашага выдавецтва („Самапомач“, „Шлях Моладзі“, Chryścijanskaja Dumka“), усюды дагэтуль чыталіся яны й чытаюцца з вялікай любасьцю і зацікаўленьнем. Але гэта толькі „між іншым“.

Возьмем іншы прыклад з штодзённага жыцьця.

Вось якраз у палове верасьня (ад 12 да 17.IX) арганізуецца ў Варшаве вялікі міжнародны зьезд прысьвячаны справе цьвярозасьці. Будуць там людзі гаварыць гарачыя прамовы процiў „найбольшага зла на сьвеце“, процiў алькаголю. Але што ўсё гэта значыць датуль, пакуль у кожным мястэчку, у кожнай вуліцы места ёсьць прынамся па аднэй, а то й па больш манапалькаў, за якімі стаіць дзяржаўны скарб, стаіць сама дзяржава. Аб самагоншчыках тут ужо і не гаворым.

Яшчэ выразьней кідаецца гэта ў вочы пры прадуктах манаполю табачнага.

Усё гэта — апрача асьветы — можна сказаць — прадметы збытку, без якіх можна і абыйсьціся.

Але вот яшчэ адзін „нумар“: розныя „сьветачы навукі“ і „поступу“ наракаюць на селяніна, што ён „цёмны“, што ня йдзе за поступам, за культурай, што не стасуе ў гаспадарцы новачасных машынаў, штучных гнаёў і г. д. і г. д. Больш таго: пад відам „дарадчыка“ друкуюцца й пускаюцца ў народ нязьлічаныя брашуры, якія „імем навукі“ накідаюць селяніну стасаваньне названых ужо штучных гнаёў, зусім ня рупячыся аб тое, ці гэта таму-ж селяніну аплаціцца. У паняцьці выдаўцоў такіх брашур, як і ў паняцьці права, брашуры гэтыя гэта толькі рэкляма, але ў паняцьці не заўсяды з усім абазнанага селяніна гэта ёсьць „навука“ роўная з першым лепшым падручнікам угнаеньня ці гадоўлі расьлін наагул. Бо й гэта-ж— „друкаванае слова“.

Гэткіх прыкладаў можна знайсьці і больш, значна больш. Але ці-ж яшчэ гэтага мала, каб паказаць, што і пры найлепшай волі ня можна „шыць культуру“ для кожнага на адзін капыл? А калі спэцыяльна гаварыць аб культуры землярobскай, аб пашыраньні стасаваньня **штучных гнаёў**, дык тут прэтэнсіі можна й трэба мець не да сялянства, а да тых, хто на гэтыя гнаі ўстанаўляе і бяззьменна трымае высокія цэны. І тут трэба паўтарыць за іншымі газэтамі вестку, што польскія штучныя гнаі, таксама як і цукар, танейшыя для земляроба заграніцай, чым у самай Польшчы. Сьмела можна сказаць, што калі-б данскі, нямецкі ці галяндзкі земляробы мусілі плаціць так высокія ў параўнаньні з збожам цэны за землярobскія прадукты, дык і яныбы гэтых гнаёў ня куплялі і не стасавалі. А някультурнасьці названым загранічным землярobам сягоньня ніхто закінуць ня можа.

Але шукайма праўды да канца.

За 100 клг. 21 працэнтнага азотняка селянін у Польшчы плаціў сёлета вясной 115 клг. жыта, а ў 1928 г.—95 клг.; за 100 клг. 16 працэнтнага супэрфосфату сёлета плаціў 44.4 клг. жыта. а ў 1928 г. — 32.8 клг.; за 100 клг. 20 працэнтнай паташавай солі сёлета плаціў 32.2 клг. жыта, а ў 1928 г. — 19.2 клг. — Ад вясны да восені азотняк і паташныя гнаі патанелі на якія 3—5 прац., фосфарныя-ж гнаі ані рухнулі. І ці-ж пры гэткіх цэнах можна селяніну нашаму з чыстым сумленьнем радзіць ужываць сягоньня штучныя гнаі? Не!

Дык дзе выхад? Спрабуйма адказаць і на гэта пытаньне. За апошні час шмат арганізавалася розных камісій і падкамісій „дзеля барацьбы

з дарагоўляй“. Урад ня раз уздабываўся нават на такія рэчы, як скасаваньне розных картэляў і трэстаў, пасьля чаго патанеў напр. цэмэнт, урад абніжыў цану на водку, але цэны на штучныя гнаі на працягу апошніх дзесяцёх гадоў (ад 1928 г.), як гэта было вышэй паказана лічбамі, для селяніна фактычна падняліся і то падняліся вельмі значна. Дык вывад з гэтага ясны: земляробства тады толькі будзе нармальна разьвівацца, калі будзе мець доступ да слушна пацэненых сродкаў прадукцыі, да якіх у першую чаргу трэба залічыць штучныя гнаі. А дзеля таго, што гнаі гэтыя ў Польшчы вырабляе сама толькі дзяржава (казна), дык ад яе і трэба пры кожнай аказіі дамагацца, каб цэны гэтыя як найхутчэй абніжыла. Словаў аб самых толькі спачуваньнях для земляробства ўжо было досыць — патрэбны станоўчы чын. Усякія адмовы гэтага слушнага жаданьня гэта толькі танец у блудным коле, ад якога бяз віны церпіць сам толькі селянін.

*Ці Вы ўжо аплацілі падпіску за II-ія паўгодкі? Зрабеце гэта найхутчэй пераказам разрахунковым на конто 40.*

## Што нясе беларусам О.З.Н.?

На зьезьдзе вясковага сэктару О.З.Н. у Вільні 15 жніўня сёл., кіраўнік гэтага-ж О.З.Н.-у на Пастаўскі павет Д-р Куркоўскі заявіў, што О.З.Н. будзе працаваць з верай у тое,

„..што ўлады гаспадарственныя (państwowe), а знача адміністрацыя, суды і войска будуць ачышчаны ад элемэнтаў няпольскіх;

„што забясьпечаны будзе пераход зямлі парцэляванае пры выконваньні закону аб зямельнай рэформе, да новых уласьнікаў выключна польскай нацыянальнасьці“.

„Гэта ёсьць — казаў далей Д-р Куркоўскі — падставы, каторыя выплываюць з праграмы палкоўніка Коца і адначасна найбольш ляжаць нам на сэрцы“.

## ГАСПАДАРСКАЯ ХРОНІКА

**Гаспадарска-земляробскі самаўрад.** Арганізаваньне па нашых вёсках на польскі лад „Кулэк Рольнічых“ паказалася аканчальна няўдачным. Дзеля таго генэрал Жэлігоўскі пачаў арганізаваць гаспадарскае жыцьцё ў самых гмінах. Тымчасам прабуе шчасьця павет Віленска-Троцкі. Рада гэтага павету 23 м. м ца пастанавіла ўжо ў найбліжэйшым гаспад. годзе 1938-39 не аддаваць ніякіх грошаў „Кулкам,“ а за гэтыя грошы асьвету земляробскую вясьці самым гмінам на свой собскі рахунак. — Удача гэтага спосабу пашыраньня гаспадарскай асьветы залежаць будзе ад таго, ці самаўрад у нас будзе сапраўдным самаўрадам, г. зн. калі ўлада ягоная будзе выводзіцца з вольных і незалежных выбараў.

**Ушчэпы падаражэюць?** Саюз гадаўцоў фруктовых школак аб‘явіў, што ў найбліжэйшым сэзоне падыйме цэны на ўшчэпы, бо быццам мінулыя бязсьнежныя але марозныя зімы у школках парабілі вялікія страты. Падвышка мае выносіць аж 60 працэнтаў. З кругоў гаспадарскіх аднак адзываюцца супроць гэткага падвышэньня галасы спраціву. Раз што калі й былі нейдзе шкоды, дык былі яны толькі частковыя, а далей, — і земляробы мелі сёлета ня меншыя шкоды з прычыны сушы. З гэтых і падобных прычын земляробскія кругі выражаюць згоду падвышыць цану ушчэпаў на 10, найвышэй на 15 працэнтаў.

**Справа гарадзкой лядоўні ў Вільні.** Колькі год ужо цягнецца справа пабудаваньня ў Вільні вялікай новачаснай лядоўні, якая вельмі аблегчыла-б гандаль земляробскімі прадуктамі, што хутка псуюцца пры звычайнай тэмпэратуры. Апошнім часам гэта справа прыймае ўжо формы больш выразныя, бо магістрат купіў ужо на гэту мэту асобную нярухомасьць пры вул. Пілсудзкага № 44.

**Пажар у конным заводзе ў Красным.** У жніўні м-цы ў ведамым конным заводзе князя Чарторыйскага (Люблiншчына) ў Красным паўстаў грозны пажар, які між іншым спаліў адзінаццаць заводных кабыл і пяцёра жарабят. Агульныя страты аблічаюць на 250 тыс. зл.



## Ziemlarobskaje pytańnie ŭ Kitaju i ŭ Japonii.

Kanflikt, ci lepš skazać vajna kitajska-japonskaja ŭznoŭ źviarnuła vočy całaha śvietu na Kitaj, jaki pavodle liku žycharaŭ (455 mil.), źjaŭlajecca najbolšaju dziaržavaju ŭsiaho śvietu.

Bolšaja častka kitajcaŭ zajmajecca pracaj na ziamli. Niama adnak na śviecie druhoha takoha kraju, u dadatku z hetak staradaŭnaj kulturaj, katory da sia hońnia mieŭ-by tak zaniedbanuju i tak prymityŭnuju ziemlarobskuju kulturu, jak jaje maje Kitaj. U całym Kitaju, tak jak i ŭ Japonii, najbolš siejuć ryžu: kala 500 miljonaŭ pikul (adzin pikul = 60.479 klh), jakija čuć čuć tolki chapajuć na pakryćcio hadavoha zapatrebavańnia. Pradukcyja pšanicy (378 miljonaŭ pikul) zusim nie chapaje na pakryćcio nutranaha zapatrebavańnia i tamu jak ryž, tak i pšanica siudy stała pryvoziacca z zahranicy.

Ziamielnaja ŭłasnaść u Kitaju chiba najdrabniejšaja va ŭsim śviecie: na haspadarku vypadaje 1.43 2.13 ha. U hetak razdroblenych haspadarkach pa navačasnamu haspadaryć nia možna. Tolki 8 prac. usiaho ŭłožanaha ŭ kitajskija haspadarki kapitału prypadaje na haspadarskija investycyi i... mašyny, a ŭsia rešta, h. zn. 92 prac. prypadaje na hrunt, budynki, fruktovyja drevy i kusty!

Apračaŕ ryžu i pšanicy, hadujuć jašče kitajcy harbatu i matyloŭ-šoŭkapradaŭ (jadvabnikaŭ), ale dachod z hetaha, u paraŭnańni z kulturami papiarednimi, vielmi niaznačny.

Ad času, kali Kitaj staŭsia respublikaj, prezydent jahony Sun Yat-Sen usimi siłami starajecca padniać praduktyŭnaść prac u ziemlarobstvie i znajšci rynki zbytu dla kitajskich vyvoznych tavaraŭ. Nad palepšańniem sposabaŭ pracy ŭ kitajskim ziemlarobstvie dbaje „Centralnaja Ziemlarobska-Daśledčaja Stancyja“, a standaryzavańniem (uadnastajnieńniem) praduktaŭ na vyvaz zajmajecca „Biuro Standaryzacyjnaje“.

Nie zvažajučy na najbolšy ŭ śviecie ziamielny hoład u Kitaju, vialikija abšary ziamli lažać tam niaŭžytkami. Kab hetyja abšary nie lažali darma, centralny kitajski ŭrad u Nankinie zavioŭ tymčasam dakładnuju kantrolu ŭsich niaŭžytkaŭ. Kali da troch hadoŭ paśla praviedzienaj ŭ danaj miascovaści kantroli niaŭžytki nia buduć abrablacca, i kali ŭ praciahu dalšych piacioch hadoŭ uradžai z hetych nanova abroblenych

# Што, як і калі рабіць?

*(Земляробская тэхніка).*

## Як вылечыць нядойную часьць вым'я.

Каровяе вым'я падзелена на чатыры часьці („чвёрткі"). Ад кожнай такой чвёрткі вядзе спэцыяльны провад, які кончыцца струкам (сіськой). Кожная карова павінна, знача, мець чатыры струкі, праз каторыя выдойваем малако, якое вытварылася ў кожнай чвёртцы вым'я. Людзі здаўна заўважылі, што калі ня выдойваць дакладна малака, або калі зусім перастаць даіць карову, дык малочныя гручолы па чынаюць працаваць што раз слабей Кажам тады, што карова дае менш малака. Калі зусім перастанем даіць карову, г. зн. выдайваць з вым'я малако, дык хоць праз нейкі час малако йшчэ будзе вытварацца, то аднак з часам вым'я, ня змушанае даеньнем да працы, зусім перастане выраблять малако. Гэтым тлумачыцца, чаму зьвяры жывучыя дзіка на свабодзе наагул даюць малака вельмі мала. Па нараджэньню жарабяці ці цяляці малако вытвараецца датуль, пакуль цялё сьсе. Але калі яно падрасьце і перастане ссаньнем апаражняць матчына вым'е, дык і малако вельмі хутка перастае выдзяляцца.

Карова гадаваная чалавекам ад бязупыннага даеньня змушанай бывае вытвараць значна больш малака, чым трэба гэтага малака для пракармленьня цяляці. Чалавек карыстае з гэтае свомасьці каровы, бо з прададзенага малака мае значны даход. Зразумелая рэч, што каб мець шмат малака, трэба карову ня толькі стала даіць, але й да кладна выдойваць, да апошняй каплі, бо толькі гэтым спосабам змушаем вым'я да большай чыннасьці.

Аднак, як увесь арганізм каровы, так і ейнае вым'я часта недамагае і тады стала ці да часу менш дае малака Калі карова зарывае (перастае выдзяляць малако), дык тады зарастае сам малочны провад, якім адводзіцца малако. Натуральна, што калі сьценкі гэтага проваду зрастуцца з сабой зусім, дык малако праз яго зусім ня можа прайсьці. А як малако з нейкай чвёрткі вым'я ня мае выхаду, дык гэта чвёртка перастае і выраблець малако і карова не дае тады ўжо гэтулькі малака, колькі магла-б даць.

Зрастаюцца сьценкі струка вым'я найчасьцей пасьля запаленьня вым'я, на што ў нас найчасьцей не зварочваюць блізу ніякай увагі. Пры запаленьні вым'я дойнасьць каровы сільна зьмяншаецца, а калі да гэтага далучыцца йшчэ зарост струка, дык карова наагул траціць на вартасьці, хоць-бы з іншага боку яна была і вельмі добрай.

Калі струк вым'я толькі што зарос, дык можна яго йшчэ вылечыць, бо зрастаньне ягонае адбываецца не адразу а памалу. Паступаем гэтак:

Бяром тонкую барачюю струну (ад скрыпкі) і ўводзім у струк так, каб яна ўвайшла ў вым'я на 1 см. Гэтак уведзеную струну пакідаем у струку на 12 гадзін і пасьля гэтага закладаем струну сьвежую. Струна гэта ад вогкасьці ў струку пучнее (бракне) і расшырае провад (канал). Па некалькіх днёх уводзім струну грубейшую, нпр. ад віолончэлі, і ўрэшце басовую. Па некалькіх тыднях провад струка значна расшырыцца, а дзеля таго, што ўсё гэта робіцца не адразу, а ступянёва, дык карова не адчувае ніякага болю.

За кожным разам пры выйманьні струны струк трэба выдаіць, знача карова ўжо тады доіцца двойчы ў дзень (кожныя 12 гадзін). Калі-ж провад досыць расшырыцца, дык можна тады ўжо даіць карову і трэйчы ў дзень і струны больш не закладаць. Паўтараецца закладаньне струны тады, калі заўважыцца, што струк пачынае ўзноў зарастаць.

*Паз.*

## Конскія вочы.

Вочы гэта вельмі важны орган ня толькі дзеля таго, што жывёла сьляпая, асабліва конь, вельмі траціць на вартасьці, але і з тае прычыны, што можа акалечыцца сама, а так-жа акалечыць і чалавека. Коні з слабым зрокам вельмі пужлівыя, бо кепска адрозьніваючы прадметы, пужаюцца абы чаго, што толькі зьнячэўкі пабачаць, напр. камень, курыцу і г. д Гэткая пужлівасьць коняў была не адзін раз прычынай няшчасьцяў.

Купляючы каня трэба зварочваць увагу, ці вочы ягоныя здаровыя, ці конь відзіць на абодва вакі,

abšaraŭ nie dasiahnuć peŭnaj najmienšaj miery, dyk abšary takija ad papiaredniaha ŭłaśnika buduć adabrany i addadzieny va,skovym kitajskim kalanistam, jakija m. inš, u harystych miascoch buduć hadavać vinahrad.

Ciažka taksama pradstaŭlajecca sprava ziemlarobstva i ŭ Japonii.

U Japonii zusim niama ŭłaśnikaŭ sielskich haspadarak u razumieńni eŭropejskim, a jość tolki „viečnyja" arendatary, jakija arendu płaciać častkaj (50—75 prac.) sabranych ziemlarobskich praduktaŭ. Ułaśnikami-ž vahromnistych časta ziamielnych abšaraŭ žjaŭlajucca vyklučna mahnaty, šlachta, klaštary i apošnim časam pramysłovyja koncerny. Hetak napr. pavodle statystyki 1935 h. u Japonii było 5½ miljona haspadarak i ŭsie jany byli ŭ arendzie. A ŭ hetym ahulnym liku było tolki 200 tysiač haspadarak, abšar katorych byŭ bolšy jak 3 ha. Taksama japoncy siejuć najbolš ryž. Niama adnak dasłoŭna dvuch pa sabie nastupajučych hadoŭ, kab nia stałasia jakaja katastrofa (ziemlatrasieńnie, i inš), paśla katoraj nastupaje hoład. Sialanie tady lezuć u lichviarskija daŭhi i jašče bolš hnibiejuć.

Kanieśnaść ziamielnaj reformy ŭ Japonii jość vidavočnaj. Nia mienš vidavočnaj jość i patreba źmieny sposabu haspadarki — pierachodu ad vyklučnaha hadavańnia i spažyvańnia ryžu da zasievaŭ miašanych. Adnastajnaść adžyŭlańnia japonskaha sialanstva stałasia pryčynaj skłonnaści jaho da šmatjakich chvarobaŭ. Apošnimi-ž hadami było śćvierdžana, što pryčynaj ŭsio čaściej spatykanaj ŭ japoncaŭ blizarukaści jość jak raz adnastajnaść spažyvy. Blizarukaść-ža, jak viedama, apošnimi časami ŭ japoncaŭ prybiraje formy pošaści. Heta vielmi pahražaje abaronnaj sile kraju i tamu ŭsiemahutnyja ŭ Japonii vajskovyja kruhi damahajucca ziamielnaj reformy.

Heta tak-ža honić japoncaŭ u Kitaj i naahuł u Aziju.

Pavodle „*Życie Rolnicze*".

*Пішучы ў рэдакцыю, выразна падавайце сваё імя—прозьвішча, вёску і ПОШТУ.*

бо гандляры-перакупшчыкі ўмеюць гэтак паставіць каня, што закрываюць усякія ягоныя недастаткі. Лекары-вэтэрынары гэтак апісваюць свомасьці здаровых вачэй:

Здаровае вока павінна быць сухім, незасьлёзеным і незачырванелым, няпрыжмураным, павекі павінны быць ненабракшыя і бяз фалдаў. Калі каня вывесьці з хлява на дзеннае сьвятло, дык не павінен ён часта лыпаць вачыма. Калі ў воку знаходзяцца цёмныя ці чорныя плямкі ці кропачкі, дык можна дапускаць, што конь зусім сьляпы, або ягоны зрок вельмі аслаблены.

Рагавая часьць вока павінна быць зусім празрыстай. Дзеля таго, што распазнаньне сьлепаты каня ёсьць часта вельмі трудным, трэба рабіць з ім гэткую пробу.

Уводзім каня ў зусім цёмны хлеў (канюшню) і прад вокам такога каня трымаем запаленую сьвечку. Калі вока зусім здаровае, дык убачым у ім тры зусім выразныя адбіцьці сьвечкі: першае вялікае на рагавой гасьці вока, другое крыху меншае ў глыбіні вока і трэцяе яшчэ глыбей, усім малое, гры гэтым адвернёнае „дагары нагамі" г. зн. полымем уніз. Калі конь сьляпы, дык у ягоным воку пабачым толькі адно адбіцьцё полымя сьвечкі, г. зн. першае на раговай часьці, а рэшты двух не пабачым, бо вока мутнае.

Хочучы пераканацца аб сьлепаце каня, можна правесьці яго па дарозе, на якой паложым якуюсьці перашкоду, напр. жордку на $^1/_2$ мэтра ад зямлі. Конь, які добра бачыць, лёгка пераступіць жэрдку, не задзеўшы яе нагамі, конь-жа сьляпы аб такую жордку зачэпіцца нагамі.

Коні дастаюць часта г. зв. месячную сьлепату. Гэта ёсьць запаленьне цэлага вока, якое паўтараецца бяз ніякай відомай прычыны ў месячных водступах. Месячная сьлепата кончыцца сьлепатой цэлай.

Кожнае вока ёсьць органам вельмі далікатным і таму ня можна лячыць яго спосабам „хатнім." Пры запаленьнях, мэханічных параненьнях і г. д. трэба шукаць помачы лекара вэтэрынарыі. Самому-ж найвышэй можна стасаваць прамываньні вока перавaранай і адстуджанай вадой.

Калі гаварыць аб прычынах вочных хваробаў каня, дык насам перш тут трэба прыпомніць стаяньне ў цёмным хляве і кармленьне з-за высокай драбінкі (ясьлі), з каторай конь дастае сабе сена ці іншы корм. Конь пры гэтым змушаны бывае высака падыймаць галаву, пры чым і зацярушвае вока пылам, сьмяцьцём, вострай мякінай і інш. Усё гэта ёсьць першым крокам да запаленьня вока, а пасьля і да сьлепаты. Дык лягчэй такой хваробы сьцерагчыся, чым з яе лячыцца.

*П.*

## Пераробка лёну й канапель.

Якасьць лянной ці канаплянай саломы ў вялікай меры залежа ад сорту валакністых расьлінаў, правідловасьці абробкі ральлі, ейнага ўгнаеньня, уласьцівага часу й гусьціні засеву, дагляду, пагоды падчас прарастаньня, ад часу зьбіраньня з поля і г д.

Але трэба ведаць, што й з найлепшай лянной ці канаплянай саломы пры няўмелай пераробцы можам атрымаць тавар бязвартасны — таннае пакульле, якое пойдзе на найгрубейшыя тканіны, як мяшкі й інш.

З гэтай прычыны трэба зьвярнуць належную ўвагу на ўласьцівую і правільную пераробку лёну і канапель. Разгледзімо гэтыя працы па парадку.

*Сартаваньне лянной ці канаплянай саломы перад мачэньнем або рашэньнем.*

Ведама, што хутчэй вырасіцца салома грубая, як тонкая, бо грубая салома мае большыя поры („пустыя" мясцы). Дзеля гэтага трэба перад усім аддзяліць салому грубую ад тонкай. Гэтак атрымаем два гатункі валакна: лепшае — з тонкай саломы, і горшае—з грубой.

Акрамя таго знаем, што кароткая салома, зьмяшаная з доўгаю, пры пераробцы дасьць шмат страт, бо кароткае валакно, хоць часам і вельмі добрае, пры выціраньні ці трапаньні высунецца з рук і паляціць у пакульле

Таксама жоўтая салома вымагае іншага часу рашэньня, чымся зялёная ці бранзовая і дае валакно іншага гатунку.

Дзеля таго лянную ці канаплянную салому сартуем, зьвяртаючы ўвагу на яе даўжыню, грубіню і ступень сьпеласьці.

Калі канаплі былі сееныя на валакно і на насеньне, г. зн. калі асобна вырывалі пласконі і асобна мацеркі, дык асобна так-жа іх трэба вымочываць і перарабляць, бо йнакш дадуць валакно розных гатункаў.

Пры сартаваньні трэба асобна складаць салому доўгую, тонкую, жоўтую, і асобна такую самую салому, але грубую. Акрамя таго, ка-

**Інж. Ад. Клімовіч.**

## Асновы земляробскай эканомікі.

9)

Але ня толькі якасьць глебы змушае часам у аднэй гаспадарцы завесьці больш як адзін севазварот. Напр. калі хутар выпадзе доўгі, вярста і больш, дык тады на грунтох бліжэйшых да гаспадарскіх будынкаў заводзім зьмену для такіх расьлін, як буракі, морхва, азімая віка, конскі зуб і мешанкі на зялёную пашу — іх лягчэй звазіць, лягчэй пад іх гнаіць поле, і лепш іх пільнаваць ад польнай крадзежы.

Урэшце слоў колькі аб самым заводжаньні севазвароту. Сказана было ўжо, што для ўнікненьня стратаў найлепш заводзіць севазварот не адразу, а паступова. Расьліны больш пераборлівыя, а такжа такія, пад каторыя не пасьпяваем належна прыгатаваць грунту, у першым годзе пакідаем на тых палёх, на якіх яны прыйшлі-б у севазвароце „старым". На „старым" таксама месцы з канешнасьці пакідаем усееную ў яравое збожа канюшыну, а азімае збожа сеем па канюшыне і па стручковых расьлінах. Для збожа яравога і для пашных мешанак выбар поля бывае ўжо вальнейшым, а йшчэ вальнейшым для лубіну і для бульбы: лубін даём звычайна на поле запушчанае, а бульбу можам садзіць усюды, дзе пагноім хляўным гноем, незалежна ад таго, што на гэтым полі было перад тым.

Мяркуючы, дзе сеяць збожа азімае (аб гэтым трэба думаць адразу, падзяліўшы поле на зьмены), шукаем перад усім для яго канюшынішча і поле па стручковых мешанках, а таксама пшанішча, аўсянішча, а нават бульбянішча (жыта бульбянішча ня любіць: за пульхнае!): па канюшыне, мешанцы і па бульбе можна сеяць пшаніцу, а па пшаніцы і аўсе, адпаведна падсеяўшы гнаёў штучных, сеецца жыта. — Яравое збожа сеем пасьля акопнін і пасьля збажавін азімых. У гэтым апошнім выпадку, сабраўшы азімае збожа, найлепш зараз-жа засеяць на зааранье ўвосені лубін ці іншую стручковую расьліну. — Сільна запушчаныя ніўкі, прад тым як увесьці ў круг нармальнага севазвароту, трэба выраўнаць, абсейваючы лубінам ці пакідаючы на год пад чорным папарам.

**Плян гнаеньня.** „З пустога і Салямон не нальe". Тым больш ня можа бязспынна радзіць зямля, нічога не атрымоўвуючы ў замен. А гэта замена й ёсьць гнаеньнем.

роткую салому дзелім на грубую і тонкую. Аддзяляем так-жа салому перасьпелую — бранзовую ад саломы недасьпелай — зялёнай. Пасартаваную салому вяжуць у снапы грубінёй каля 30 см.

*Як расіць-слаць лён?* Найбольш адпаведным месцам для сланьня-рашэньня лёну ёсьць непадмоклыя сенажаці і пасьбішчы, паложаныя ў зацішы, напр. каля лесу і г. п. Калі няма такіх мясцоў, дык з бяды можна расіць лён на нізка скошаным аржышчы, на ляньнішчы, а таксама на белай канюшыне. Трэба толькі глядзець, каб лён не ляжаў на зямлі, бо тады псуецца валакно. На чырвонай канюшыне кепска расіць лён, бо яна яго прарасьце і тады лён аднолькава ня вырасіцца, а сам гатунак валакна будзе горшы. Наагул прарастаньне пасьцеленага лёну ёсьць некарысным; каб раўнамерна вырасіўся яго трэба пераварочываць. Пераварочваем лён раз, або калі дажджы часьцейшыя, дык і два разы, па 5—10 днях пасьля высьцяленьня. Пры сухой пагодзе трэба высьцелены лён раз ці два паліваць вадой.

Трэба ўважаць, каб лён ня быў высьціланы пластам грубшым як 1—1½ см. Час сланьня лёну трывае ад 2-х да 4-х, а нават і да 6-х тыдняў.

Сказаць, калі высьцелены лён трэба ўжо зьбіраць, даволі трудна; але гэта вельмі важна, бо ад гэтага залежа вартасьць валакна. Кожны асобна высьцелены гатунак лёну пробуем асобна, ці валакно лёгка адстае ад сьцяблә, ці на сьцяблі па зламаньні не астаюцца дробныя валаконцы.

Вылежаны (вырашаны) лён зьмяняе на сьцелішчы цёмны свой колер на сьвятлейшы. Гэта й знача, што зблі́жаецца канец рашэньня. Трэба тады вельмі часта прабаваць, ці лёгка адстае валакно ад сьцябля. Найлепш гэта пазнаем, калі высушым колькі саломінак, сатром іх і вытрапаем.

*Мачэньне лёну й канапель.* Мачэньне лёну ў нашых умовах, калі ня маем адумысных мачылішчаў і часам няма адпаведнай вады, дае горшы тавар ад рашэньня.

Канаплі менш пераборлівыя і іх переважна мочым.

Калі-ж лён ці канаплі мочым, дык памятайма, што найадпавяднейшай да гэтага ёсьць вада мяккая, якая ня мае ў сабе вапны й жалеза, якія валакну шкодзяць.

Усялякія сажалкі, меншыя вазёры і рэчкі, у каторых вада павольна працякае, гэта месца да мачэньня лёну ці канапель. Лепшымі мачылішчамі зьяўляюцца штучныя й адпаведна ўладжаныя ямы, у каторых можна зьмяняць ваду.

Мачэньне трывае ад 5 да 14 дзён, залежна ад цяплiні і якасьці вады.

Пры мачэньні часьцей і пільней як пры рашэньні трэба прабаваць, ці лён гатовы. Пробы гэтыя робяцца таксама, як і пры рашэньні.

*Мачэньне, а пасьля рашэньне лёну.* Пры гэтым спосабе аддзяляньня валакна ад кастрыцы, спачатку праз колькінаццаць дзён салома мочыцца, а пасьля сьцеліцца і росіцца да часу, калі лён ня станецца гатовы, вырашаны

Гэты спосаб не найгоршы, асабліва калі хочам атрымаць валакно бялейшае і адначасна мацнейшае.

Трэба йшчэ ведаць, што калі вада ня была добрай, дык кароткае мачэньне не сапсуе валакна.

*Сушэньне лёну й канапель.* Найлепш сушыць лён і канаплі на сонцы, бо тады атрымоўваецца добрае, мяккае і белае валакно. Для таго-ж, каб лён ці канаплі можна было высушыць і перарабіць яшчэ „з сонца“, трэба і канаплі і лён сеяць раней. Трэба памятаць, што сушэньне лёну ў печах у Польшчы забаронена законам. Пры сушэньні лёну на сонцы, разстаўляем яго стрэшкамі, якія пасьля пераварочваем.

*Мяліва лёну й канапель.* Мнецца лянная ці канапляная салома



**Вальцовая мяльніца.**

па тое, каб паламаць адзеравянеўшую кастру і часткова адклеіць валакно. Стасаванае часта сухое біцьцё пранікам па гарачым з печы лёне, а пасьля мяліва на звычайнай мяльніцы, якая сільна зьдзірае кастрыцу з валакна, ёсьць неадпаведным, бо псуе валакно.

Лепшай ёсьць мяльніца вальцавая. Гэта машына не дарагая, а

---

Добры гаспадар, стала сьледзячы рост расьліны на полі, паводле колеру й сілы росту расьліны прынамся ў прыблізнасьці пазнае, якіх гнаёў у гэтай глебе не хапае. Найлепш, калі гэту нястачу можна запоўніць гноем хляўным ці зялёным. Хляўны гной даецца наўперад пад акопніны; пад збожа непасрэдна хляўны гной даецца толькі там, дзе акопнінаў гадуюць мала. Замест хляўнога гною часта даюць гной зялёны.

Састаўляючы плян гнаеньня, трэба наўперад устанавіць, пад каторую расьліну і колькі дацца хляўнога і зялёнага гною і тады толькі ўстанаўляецца, колькі трэба дадаць гнаёў штучных.

Стасаваць штучныя гнаі заўсяды трэба з вялікай асьцярожнасьцю. Вымагаюць гэтага як асаблівыя свомасьці самых гнаёў (якія гнаі даваць пад якія расьліны), так і вырахаваньні гаспадарчыя.

**Абрахунак сяўбы і ўраджаю.** Колькі трэба для гаспадаркі сяўбовага насеньня, залежа ад устаноўленага пляну (паводле абшару празначанага пад засеў). Таксама з абшару абсеенага паасобнымі расьлінамі і з сярэдняга ўраджаю гэтае расьліны на адзінку абшару (напр. на гэктар), адгадваецца ўвесь спадзяваны ўраджай.

Адгадваючы спадзяваны ўраджай паасобных расьлінаў, трэба яго падзяліць на часьці: 1. на сяўбу, 2. на прахарчаваньне і пашу, 3. на продаж.

**Цяглая сіла.** Цяглая сіла, ці гэта будуць коні, ці валы, ці што іншае, ёсьць канешным цяжарам у гаспадарцы. Больш аб гэтым была ўжо мова на бач. 19—20.

**Мёртвы інвэнтар.** Мёртвы інвэнтар служа галоўным чынам па тое, каб належна выкарыстаць працу людзкую і жывёлы. І мёртвы інвэнтар абцяжвае гаспадарку. Таму трэба высьцерагацца, каб ня купляць рэчаў, без якіх можна абыйсьціся (напр. жняярка), не абмінаючы такіх, якія аплачваюць сябе ў кароткім ужо часе і далей служаць поступу ў гаспадарцы (напр валачаўла, добры плуг, сеялка).

Пытаньне ўстанаўленьня ліку работніцкай сілы ў варунках сялянскай гаспадаркі ня ёсьць істотным Важнейшым затое ёсьць пытаньне

**Гаспадарскіх будынкаў.** Тут агулам можа быць правіла, што лішні будынак гэта цяжар, але патрэбны будынак гэта канешнасьць. І яшчэ адно: добры гаспадар пачынае будавацца не ад жылога памешчаньня, а ад... хлява.

да таго мае йшчэ большую вартасьць, бо добра аддзяляе валакно і аблягчае працу, а зрабіць такую мяльніцу патрапіць і кожны лепшы сталяр. У такую мяльніцу салома лянная падаецца вярхамі.

*Трапаньне.* З ламятага валакна трэба аддзяліць паламаную кастрыцу. Робіцца гэта трапаньнем валакна на трапаках ручных ці на калёсных. Аб заваджэньні калёсных трапакоў таксама трэба было-б падумаць.

Адразу ня трэплем на чыста, а толькі на палову, калі валакно мае 5—12 прац. кастрыцы. Па колькі днях трэплем такое валакно на чыста. Добра вытрапанае валакно не павінна мець больш як 3 прац. кастрыцы. Кастрыца, якая асабліва ўверсе каліва не адстае ад валакна, не даецца адарваць і трапаньнем: прычынай гэтага ёсьць недамачэньне ці недарашэньне.

Вытрапанае валакно сартуем паводле даўжыні, колеру і гатунку, вагаю больш-менш па 5 клгр.

На продаж прыгатаўляемо валакно толькі вытрапанае, адпаведна пасартаванае і павязанае ў пучкі. Валакно чэсанае вясковым прыладзьдзем (грэбянямі, шчоткамі) для фабрыкі ёсьць неадпаведным і яна мусіць яго нанова перачэсываць, а ад гэтага ўзноў бываюць страты. Дзеля таго часаць у гаспадарцы трэба толькі гэтулькі лёну, колькі яго трэба на ўласныя патрэбы.

**М. Полішчук.**
*„Рільник“.*

# Цэны ў Вільні

**Збожжа** *10.IX.37 за 100 клг.*

| | |
|---|---|
| Жыта . . . . . . . | 23.00—24.25 |
| Пшаніца . . . . . | 28.00—29.50 |
| Авёс . . . . . . . | 19.00—22 00 |
| Мука пшонная | 33.75 46 85 |
| Мука жыт. I О—50%... | 36.50—37.00 |
| „ „ I О—65%... | 34 00—34.50 |
| Мука разовая да 95%... | 26.50 - |
| Вотрубы пшонныя . | 16.00— |
| Вотрубы жытнія . . | 15.00—15.50 |
| Семя лянное b. 90% | 39 00 39.50 |

**Малочнае**, *7.IX.37 за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае, гурт | —3.30 |
| „ „ дэталь | —3.60 |
| Масла сталовае гурт . | —3.20 |
| „ „ дэталь | —3.50 |
| Масла соленае, гурт. | —3.20 |
| „ „ дэталь | —3.50 |
| Сыр эдэмскі чырв., гурт. . | —2.00 |
| „ „ „ дэталь | —2.40 |
| „ „ жоўты, гурт | —1 80 |
| „ „ „ дэталь | —2.20 |
| Сыр літоўскі гурт . | —1.60 |
| „ „ дэталь | —2.00 |
| Яйкі ў гурце за капу . | 3.90—4 50 |
| „ ў дэталю за штуку | 7—8 гр. |

# Сартаваньне садовіны на рынак.

Калі аб чым, дык аб садовіне (фруктах—яблыках, ігрушках і г. д.) поўным правам можна сказаць, што купляецца яна в а ч ы м а. Інакш кажучы, цана і нават ходкасьць садовіны на рынку ў першую чаргу залежа ад ейнага выгляду. І на гэта трэба зьвярнуць увагу ўжо пры абіраньні садовіны з дрэваў, бо ад гэтага м. інш. залежа трываласьць садовіны і ейны вонкавы выгляд. Памятаць пры гэтым трэба, што адзін хоць-бы толькі надпсуты яблык пасярод яблыкаў найлепшых псуе цану гэтых апошніх.

Выбраную здаровую садовіну трэба акрамя таго падзяліць найменш на тры часьці: I – садовіна найлепшая; II— гаспадарская і кухонная, на сушэньне, джэмы і мармэляды; III—садовіна на прамысловае перапрацаваньне на лікеры, сокі (мошч) і воцат.



**Гэтак трэба зрываць з дрэва садовіну.**

Ня можна яблыкаў ці йгрушак „трэсьці,“ як ня можна іх навет зьбіраць у мех і пасьля высыпаць як бульбу на кучу, на каторай побач сябе ляжалі-б вялікія і малыя, чарвівыя і надгніўшыя, харошыя, чыстыя побач з забруджанымі. Пры зьбіраньні садовіны з костачкамі (сьлівы) трэба пільна ўважаць, каб іх ня зрываць з „хвосьцікамі“ і ня сьцёрці з іх колеру, бо тавар з знакамі пальцаў пасьля траціць на вартасьці. Таму перад усім трэба падзяліць садовіну паводле здаровасьці, выгляду і вялікасьці. Заўсяды лепш аплаціцца прадаць тавар пасартаваны: асобна найлепшы і асобна горшыя сарты.

Натуральна, добра пасартаваную садовіну ня можна прадаваць „гуртам,“ бо гэта будзе стратай на карысьць нясумленных перакупшчыкаў.

Найлепшыя сарты садовых дрэваў, найбагацейшыя ўраджаі нічога не памогуць нам датуль, пакуль не навучымся прыгатаўляць на рынак так тавар, якога гэты рынак патрабуе і за які добра плаціць. Дык вучэмася выкарыстоўваць усё тое, чым нас дарыць небагатая наша прырода. А прынамся ня псуймо таго, што прырода дае нам у форме стройнай і выканчанай.

*Садавод.*

# Выкарыстайце мул з сажалак і ставоў.

У ставох і сажалках, што маюць пераплывовую ваду з ваколічных грунтоў, па нейкім часе утвараецца на дне менш-больш грубы пласт ілу, ураджайнасьць якога залежа як ад ураджайнасьці глебы, на якой сажалка (стаў) знаходзіцца, так і ад якасьці глебы, праз якую вада працякае прад тым як уліецца ў самую сажалку. Іл (глей) гэты можа мець у сабе шмат кармовых сучастак для расьліны і дзеля таго можа быць выкарыстаны як вельмі карыснае ўгнаеньне. Дзеля таго, што нагрмаджэньне гэтага ілу ў сажалцы перашкаджала-б правільнай гадоўлі рыб ды ў канцы навет пыпаўніла-б увесь стаў, трэба гэты іл ад часу да часу выбіраць. Карыстаюць з гэтага, каб пры ачышчаньні ставу ад ілу, угнаіць ім поле.

Іл з сажалак ці ставоў ня можна аднак вывозіць проста на поле, бо гэткі іл звычайна бывае заквашаны, а знача мае ў сабе шмат складнікоў шкодных для расьлін. Напр. цукровыя буракі, таксама як і стручковыя расьліны зусім ня церпяць заквашанай глебы. Незаквашаным бывае толькі такі іл, які паўстаў з частак сплаўленых з глебаў багатых на вапну. Бывае аднак гэта рэдка і таму такі іл з дна сажалак і ставоў наагул рахуецца заквашаны.

Каб гэткі іл быў няшкодны для расьлін, яго трэба адквасіць. Найпрасьцейшым і адначасна найтанейшым спосабам адквашэньня ілу ёсьць вымаражэньне. Спусьціўшы ваду з такіх ставоў увосені, вывозяць з яго іл на поле, раскладаючы яго невялікімі кучкамі і пакідаюць так да вясны. Ад марозу вада ў іле замярзае, а лёд расьпірае масу ілу на дробныя часткі. Паветра, даходзячы да гэтых частачак замарожанага ілу, адбірае ад яго свомасьці квасныя і сам іл ста-

новіцца прыдатным да ўжываньня як угнаеньне.

Вясной, калі з вымерзлага ілу выйдуць усякія кіслоты, яго трэба роўнамерна раськідаць па полі і прыараць. Гнойны ўплыў такога ілу на глебу трывае адзін, два, а часам і больш гадоў. Залежа гэта ад засобнасьці (багацьця) ілу ў спажыўныя сучасткі.

На гнаеньне палёў ілам з сажалак і ставоў трэба зьвярнуць увагу перад усім сёлета, калі з прычыны малога ўраджаю на салому можна спадзявацца зьменшаньня і колькасьці хляўнога гною.

Адквасіць іл можна лёгка дадаючы да яго нягашанай вапны, хоць, пэўна-ж, гэты спосаб будзе незраўнана даражэйшы, як выкарыстаньне марозу.

Можна так-жа адквасіць іл, складаючы яго ў кампостовыя кучы. Складаецца тады іл у невялікія (ня грубыя) кучы, і перакладаецца і перакопываецца так сама, як звычайны кампост. Толькі перакопываецца такі іл значна часьцей, каб паветра мела да яго большы доступ.

Чым цэнны іл?

Мае ён звычайна шмат частак вяжучых, якія памагаюць глебе пе ратварыцца і ўтрымацца ў крупнатай будове. Дзеля гэтага іл з ставоў вельмі карысны на ўсякія глебы, а асабліва на глебы лёгкія, рассыпныя і бедныя на перагной. На гэткіх перад усім глебах адквашаны іл з ставоў і сажалак можа аддаць земляробу вельмі вялікія ўслугі.

*Kutok dla ħaspadyniaŭ*

## Sušyma sadovinu.

Uzimku, kali nia stanie śviežaj sadoviny, dobra smakuje kampot z sušanych jabłykaŭ, ihrušak ci ślivak... Chto maje šmat sadoviny, toj nie škaduje i lepšych sartoŭ, kab pabolšyć zimovyja zapasy ŭ svajej kamory.

Sušeńnie sadoviny viedaje vioska zdaŭna, ale nie zaŭsiody takoje sušeńnie ŭdajecca. Časta bačym, jak na haradzkich rynkach pradajuć haspadyni sušanuju sadovinu, jakaja zusim nia pryciahvaje vačej pakupcoŭ. Sušana takaja sadovina razam z rabakami, ziarniatami, blizu na vuhal spalenaja i ŭsia ŭkačanaja ŭ popieł. Hetki tavar u handli nia moža być chodkim. Tamu, kali chočam mieć choraša sušanuju sadovinu dla siabie i na zbyt, musimo paśviacić jej bolš uvahi.

Naŭpierad sadovinu praznačanuju da sušeńnia treba vymyć čystaju vadoju, paśla parezać, vyniać ziarniaty razam z asiarodkam (hniazdom), vyrazać miascy nadhryzienyja rabakami i tady tolki sušyć.

Dzie j jak heta rabić? Možam sušyć sadovinu ŭ piečy pa chlebie, u trubie (u duchoŭcy), a taksama na piakarskaj piečy na asobnych šufladkach (na liskach), a niekatoryja drobnyja jahady — na soncy.

U piečy sušym abo na sałomie abo na liskach. Vybirajem snapok čystaj sałomy, raspuskajem jaho ŭ čysta vymiecienaj piečy i syplem na jaje pryhatavanuju sadovinu. Jak prasochnuć, ssuvajem rukami sałomu razam z sadovinaj i vyciahvajem z piečy. Prasochšuju sadovinu pieramiešvajem nia rukami, ale čystaj łapatkaj. Zaznačajem, što pieč nia moža być haračaj, bo tady sadovina puściła b z siabie sok i nia sochła-b, a piakłasia-b. Pieč maje być chałodnaj, a sadovinu treba sušyć niekalkima navarotami. Nia možna kłaści ŭ pieč adrazu šmat sadoviny, bo tady jana nia roŭna vysychaje. Kłaści treba jaje zaŭsiady roŭnym płastam, padściłajučy zaŭsiody sałomu.

Što takoje liski da sušeńnia sadoviny? Robimo ich hetak: źbivajem dzieraŭlanyja ramy tak doŭhija i šyrokija, kab mahli volna pamiaścicca ŭ našaj piečy. Ramy hetyja abciahvajem mocnaj orhantynaj (redkaja tkanina, jakuju možna dastać u kožnaj kramie z manufakturaj) abo lepš jašče prybić na ramie sietku z nieržaviejučaha drotu. Jak orhantynu, tak dracianuju sietku prybivajem da ramy ćviakami. Na ŭsich rahach ramaŭ nabivajem syspadu niavysokija 4—5 cm. nožki, miarkujučy tak, kab u razie patreby možna było liski staŭlać ŭ piečy adna na druhuju.

Zamiest dracianaj sietki, možam plaści ŭsiu lisku z dzieraŭlanaha prućcia. Liski napoŭnienyja sadovinaj da sušeńnia treba pierakładać, kab roŭnamierna vysychali.

Hetak sušanaja sadovina jość poŭnaja, niazmorščanaja, u mieru suchaja i čystaja.

Jšče adna zaŭvaha — vialikija jabłyki režam na čviortki, mienšyja na pałavinki, vyrezvajem hniozdy z ziarniatami. Jhruški režam na pałavinki, pakidajučy chvośćiki. Śliŭki i višni sušym celymi.

Vysušanuju sadovinu pierachoŭvajem u miaškoch z redkaha pałatna abo sietki ŭ suchim, pravieŭnym, niezatuchłym miescy.

Zadajmo sabie krychu trudu — a jon vypłacicca nam napeŭna.

**Inž. O. D.**

# Што чуваць на сьвеце

## Самагубства Любчэнка.

30 жніўня сёл. у Кіеве застрэліўся Панас Любчэнка, старшыня Рады Народных Камісараў Савецкай Украіны. Любчэнка прыйшоў да ўлады перад трыма гадамі, пасьля самагубства Скрипника. Прад тым-жа ён стаў ведамым як пракурор у вялікім працэсе супроць СВУ (Саюзу Вызваленьня Украіны). Афіцыяльна закідваецца Любчэнцы „здрада бацькаўшчыны працоўных і кантакт з заграніцай.“

## Кітайска-японская вайна.

Ад мясцовых „суседзкіх“ сутычак паміж Кітаем і Японіяй дайшло за апошні месяц да фармальнай вайны. Заядлыя баі йдуць перад усім у районе места Шанхай. Кітайскія і японскія кварталы гэтага 3 з паловай мільённага гораду блі зу зусім зьнішчаны, галоўным чы нам ад налётаў аэрапляпаў аднэй і другой ваюючых старон. Выразна пры гэтым відаць, што японцы „аблічыліся:“ яны не спадзяваліся такога адпору, які спаткалі з боку кітайцаў. Не зважаючы на вялікую перавагу японцаў у ўзбраеньні, ім усё-ж вельмі цяжка датрымаць поля кітайцам, якія бароняць свае бацькаўшчыны з нязвычайнай ахвярнасьцю.

Не малое так жа значэньне на акончальны рэзультат вайны мае і падпісаная-энагдай паміж Кітаем і Саветамі ўмова аб ненападаньні. А да таго сучасны збройны канфлікт Японіі з Кітаем злучыў увесь Кітай (і камуністычную Кантонскую кітайскую рэспубліку) ў адно цэлае. Усё гэта вельмі ўзмацняе Кітайшчыну. Але які будзе дальшы ход гэтай вайны, згадаць трудна, бо шукае саюзьнікаў і Японія.

## З фронту гішпанскага.

Хоць падзеі на Далёкім Усходзе і прыцьмілі значэньне падзеяў у Гішпаніі, то аднак тут цяпер ідзе разыгрыўка вельмі вострая і хто ведае ці не рашучая. Пасьля заняцьця Баскійскіх гарадоў Більбао і Сантандэр, паўстанцы фактычна зьліквідавалі паўночны фронт і цэлай сілай напіраюць у кірунку Мадрыту, Валенсіі і Барсэлёны. Апрача таго разьвіваюць вялікую чыннасьць на моры. Дагэтуль яшчэ аднак адна траціна Гішпаніі знаходзіцца пад уладай рэспубліканцаў.

## Кангрэс нямецкіх нацыянал-соцыялістаў.

На кангрэсе нямецкіх нацыянал-соцыялістаў, які сёлета, як штогод адбыўся ў першай палове верасьня (ад 6 да 16) ў Норымбэрзе, у праграмнай прамове Гітлера, якую прачытаў Вагнэр, была заява, што Нямеччына, разам з Італіяй, зьяўляюцца наймацнейшымі вартаўнікамі ладу і парадку. Далей, Нямеччына дамагаецца для сябе заморскіх калёніяў. Заграмічная палітыка Нямеччыны апіраецца на наступных прадпасылках:

1. Вэрсальскі трактат перастаў існаваць, 2. Нямеччына ёсьць вольнай, 3. Зарукай гэтай вольнасьці ёсьць нямецкая армія.

